Пачатак на стар. 1

# ПАСЛУХАЙЦЕ ШТО Ў СЕМЯНОЎЦЫ

вы. Забавы тут адбываюцца (моладзь арганізуе забавы для заробку. «За свае з кніжачкі ПКО» грошы купілі яны перкусію і нешта яшчэ, а зараз збіраюць грошы на акардэон). Але больш нічога. Сам будынак не надаецца для рамонту, замнога бадай каштаваў бы.

Ідзем з кіраўніком зялёнай пахучай семяноўскай вуліцай. Вось клуб, таксама няўдачны — гаспадары не ладзяць з моладдзю. Заходзім на зялёны панадворак адной хаты, у якую плануецца перанесці клуб. Ды і гэтая хата вымагае рамонту. Яе малады гаспадар (працуе ў Гайнаўцы) прыналежны да групы семяноўскага калектыва, сам выканаў падмурак і сходы, але гэтага яшчэ мала. Што скажа па гэтай справе раўскі ГС, бо ён жа галоўны гаспадар семяноўскага клуба рольніка.

Кіраўнік школы 10 год працуе ў Семяноўцы. Чалавек удумлівы, з шырока адкрытымі вачыма. Мае цікавыя думкі і многа ўваг. Дзесяць год таму назад сам быў тым першым, які вёў самадзейны калектыў у Семяноўцы. Потым вялі калектыў іншыя настаўнікі. А цяпер таварыш Кічко кажа: «Будзем гаварыць пра культуру і моладзь пад восень на педагагічным савеце, паставім справу супрацоўніцтва настаўнікаў з асяроддзем». Словы гучаць надзеяй і дапамогай.

Летнім сонечным днём цяжка знайсці людзей на вёсцы, каб пагаварыць з імі. У полі яны, ля машын. У Семяноўцы лічыцца ў гэтых пошуках і адлегласць. Вялікая частка вёскі раскінута на калёніі. Едзем дарожкай праз высокае жыта на адну такую калёнію. Суправаджаючы кіраўнік сам нервуецца, ці хоць добра едзем да Галіны Засім. А ўсюды жыта і зялёныя дрэвы. Сярод іх схаваўся дом Галіны. Была вучаніцай Уладыслава Кічко. Маладую, 20 год, прыгожую, па-дзявочаму скромную Галіну застаем у хаце. Памалу раскручваецца размова, з якой удаецца нарэшце выведаць, што мая субяседніца актыўны член семяноўскага калектыва. Ад канца мінулага года яна таксама старшыня гуртка ЗМВ у вёсцы, які налічвае 30 асоб. І тут трапляю на крыніцу інспірацыі семяноўскай моладзі — гэта ЗМВ. Быў у вёсцы гурток БГКТ, але яго старшыня пайшоў у войска і цяжка гаварыць цяпер пра працу гуртка БГКТ. Галіна расказвае, як у сваёй культурнай працы яны ставяць беларускія п'есы, а песні спяваюць розныя; таксама свае старыя песні вёскі.

Праграмы, з якімі выступаюць, вядзе наогул наша новая знаёмая Галіна Засім, па-польску і па-беларуску. А як цікава і ўмела складаюць яны ў Семяноўцы канферанс'е! Вось вядучы расказвае гумар (з «Нівы» ўзяты) аб цыгану, які не хацеў бясплатна сказаць гаспадару, куды ўцякло яго парася. На заканчэнне гумару чуем: «а вы паслухайце песню бясплатна: У суботу Янка, спявае Рысек!» Дасканалы метад!

Многа ёсць здольных людзей у Семяноўцы. Гаворыцца многа пра сясцёр Аніскевіч, якія славіліся галасамі і песнямі. Наймалодшая Шура Аніскевіч спявае ў калектыве і цяпер. Салістка. Іграе таксама ў драмгуртку.

Пыталася я ў іх, чаму Семяноўка не выступіла ані ў аглядзе на беларускую песню, ані ў аглядзе драмгурткоў, якія арганізуе БГКТ.

Цяжка сказаць, якая прычына галоўная. Здаецца, тая, што Семяноўка проста была неадкрыта ў апошні час. Не адкрыта нават для павятовага аддзела ў Гайнаўцы.

Кароткі час у Семяноўцы прайшоў хутка і напоўніў радасцю за тутэйшых людзей, тых з якімі пазнаёмілася і тых, аб якіх толькі чула.

*Вера Леўчук*

# ЗАПРАШЭННЕ ДЛЯ ЗЛАДЗЕЯЎ

Аднойчы вяртаўся я з Мілейчыц у Бельск. Быў спякотны чэрвеньскі дзень, збіралася на буру. За вёскай Дашы, больш-менш у палавіне дарогі між Кляшчэлямі і Дашамі, нашу ўвагу звярнуў трактар, які ляжаў у прыдарожным рове, перавернуты ўверх калёсамі. Здалося мне, што ён трывожна кліча кагосьці на дапамогу. Я папрасіў шафёра спыніцца. Ля трактара нікога не аказалася. Толькі разбітае шкло ад кабіны і выцякаючая аліва сведчылі аб тым, што ў гэтым месцы здарылася нейкае няшчасце.

Непадалёк нейкі хлапчук пасвіў кароўкі.

— Я нічога не бачыў і нічога не ведаю, — адказаў ён і як найдалей паімчаўся ад нас.

— Дык што тут здарылася? — здагадваўся я. — Чый гэта трактар?

— Пагляндзі! — заявіў мне шафёр рэдакцыйнай аўтамашыны і паказаў надпіс, які абвяшчаў: «МБМ КЛЯШЧЭЛІ». Вось ён чый, гэты *«Урсус» Ц-4011»!* Толькі чаму ўласнік так абыякава, бестурботна пакінуў яго без ніякага дагляду ў рове? Ці ж бы не баяўся, што нейкі хітры аматар павыкручвае хаця б некаторыя часткі?

Было ўжо запозна, каб распытаць у непасрэдна зацікаўленых. Дык папрасіў я пісьмовай інфармацыі. Чакаў два тыдні і не дачакаўся.

Нядаўна зноў давялося праязджаць мне побач міжгурткоўскай машынатрактарнай базы ў Кляшчэлях. Успомніўся вывернуты трактар. Я рашыў даведацца пра яго лёс. Адкрытымі варотамі наша машына падкаціла пад адзін з баракаў, які аказаўся пад замком. Іншыя таксама. Кругом ні жывой душы. Толькі адны машыны: жняяркі, снапавязалкі, касілкі, трактары, плугі ды іншая сельскагаспадарчая тэхніка. Бяры, што хочаш!

Была тады серада, 28 чэрвеня 1972 года, 10 гадзіна раніцы. Праз чатыры гадзіны, мы зноў праязджалі побач кляшчэлеўскай МБМ і зной не відаць было там ні жывой душы.

Эх, парадачак у вас, паважаныя сябры кляшчэлеўцы!

*М. Нурэцкі*

*Фота аўтара*



*Вось ён «Урсус Ц-4011» з кляшчэлеўскай МБМ, які знайшлі мы ў прыдарожным рове.*

# ШТО Я БАЧЫЎ У СУСЕДЗЯЎ

*(Пачатак на стар. 1)*

на кожным кроку дзейнасць і праектантаў, і рацыяналізатараў, якія дбаюць не толькі аб павелічэнні прадукцыі, але таксама аб аблягчэнні працы на кожнай пасадзе. Маленькі прыклад: у Беластоцкай гуце шкла і ў найлепшай польскай гуце «Юлія» ў Шклярскай Парэмбе рабочыя, працуючыя пры печах, (называемых ваннамі), фарміруюць вадкае шкло пры дапамозе ўласных лёгкіх, дмухаючы ў доўгія руркі (як называюць іх тут — «люлькі»), якія паварочваюць у руках. У гуце шкла «Нёман» гэтыя «люлькі» маюць спецыяльныя гумовыя грушкі. Рабочыя замест таго, каб выдмухваць сабе лёгкія, націскаюць толькі гэтыя гумовыя грушкі, атрымоўваючы той самы эфект.

Дык бачым, што гэта не пустая фраза, што сапраўды можна шмат чаму навучыцца ад сяброў.

У маіх журналісцкіх размовах найбольш месца занялі размовы з рабочымі. Наогул я прабаваў шукаць адказу на пытанне: як жывуць людзі ў Гродзенскай вобласці БССР. Сёння адказ гучыць — жывуць так, як і ў нас. Тая толькі розніца, што працуюць, бадай, больш салідна, чым мы. Больш прадукцыйна, не трацячы часу на ніякія «выхады ў горад», на гарбаткі ў часе працы, на пустыя размовы. Адносяцца да сваёй працы (дзе б яны, у якой прафесіі б не працавалі) вельмі сур'ёзна. Але дзякуючы таму і лепш зарабляюць. Гэта відаць не толькі ў іх кватэрах. Відаць гэта таксама ў міжнароднай шкале: рубель з'яўляецца сёння цвёрдай міжнароднай валютай, а яго вартасць з кожным днём, з кожным годам узрастае. І гэта відаць у Савецкім Саюзе на кожным кроку.

Не азначае гэта аднак, што савецкія людзі маюць лёгкае жыццё. Усё гэта яны заваявалі ўласнай цяжкай працай. Разлічваюць яны перш за ўсё на сябе, і таму так цэняць усё, што заваявалі сваёй працай.

Асабліва відавочна гэта на Беларусі. Па гэтай зямлі прайшла страшэнная навала вайны ў часе другой сусветнай вайны. Пакінула яна па сабе руіны і папялішчы, пакінула шмат удоў і сірот, шмат слёз. Таму героі-партызаны, героі Вялікай Айчыннай вайны карыстаюцца тут вялікай пашанай. У Мінску, сталіцы рэспублікі, кожны чацверты-пяты чалавек ва ўзросце 40—50 год мае на сваім пінжаку нейкія ўзнагароды.

Вельмі мілы наш гід і апякун падчас нашага прабывання ў Гродзенскай вобласці Віктар Губіч (намеснік кіраўніка гродзенскага аддзела культуры) з гонарам паказваў нам жылы квартал, у якім ён жыве, на акраінах Гродна. Сёння стаіць там больш 30 вялікіх жылых блокаў, а ўсяго толькі год таму назад было там іх толькі 3. Усе яны пабудаваны з прэфабрыкатаў, якія выпускае гродзенская фабрыка.

У вочы мне кінуўся той факт, што ў новым жылым квартале (хаця няма яшчэ новых дарог), адразу пабудаваны поўны камплекс паслуговых і сацыяльна-культурных устаноў: кіёск з гароднінай, прадуктовыя і прамтаварныя магазіны, прадшколлі і школы. Гэта мне спадабалася.

Зрэшты, спадабалася мне таксама другая нашая апякунка, таксама працаўнік гродзенскага аддзела культуры Ларыса Зубава. Такіх жа прыгожых, сімпатычных і мілых дзяўчат мы сустракалі не толькі ў Гродна: таксама ў Мінску, Навагрудку, Дзятлаве і Беразоўцы. А калі ўжо гаварыць аб людзях дык адчуваю абавязак падзякаваць яшчэ раз усім тым жыхарам Беларусі, з якімі сустрэліся мы ў часе нашага кароткага падарожжа. Вельмі дзякуем за гасціннасць і сэрца. Да наступнай сустрэчы!

*Генрык Кашковяк*

**Беларуская ЛІТАРАТУРА** Аляксандар Баршчэўскі

# ПЕРЫЯД XIX СТАГОДДЗЯ

ВІНЦУК ДУНІН - МАРЦІНКЕВІЧ — ЧАСТКА VI.

Найдаўжэйшай паэмай Марцінкевіча з'яўляецца твор «Халімон на каранацыі». У гэтай, даволі расцягнутай і ў кампазіцыйным сэнсе недасканалай паэме, расказвае аўтар аб падарожжы гарадзецкага старшыні ў Маскву на каранацыю рускага цара. Аб тым, як дайшло да выязду, гаворыць паэт вельмі шырока і дакладна:

«Падумаў царок дабрэнькі,
Што вось Халімон старэнькі,
Гарадзецкі старшына,
На прозвішча Забалотны
Можа б дзеткі, быў ахвотны
Спазнаць сваяго цара»

Ужо ў гэтым малым фрагменце твора, выяўляецца асноўны тон паэмы. Істота яе заключаецца ў тым, што цар добры, што дбае пра свой люд, а люд глыбока зацікаўлены ўсім тым, што адбываецца на царскім двары. Па сваім характары, структуры і ідэях «Халімон на каранацыі» нагадвае вядомыя нашай літаратуры паломніцкія творы. Падарожная літаратура, мабыць мела значны ўплыў на стварэнне Марцінкевічам гэтага твора. У старых паломніцкіх творах апісана дакладна падрыхтоўка да падарожжа, камплікацыі звязаныя з падарожжам, урэшце прыбыццё вандроўніка на месца прызначэння. Характэрнай рысай паломніка-героя з'яўляецца яго безупыннае здзіўленне тымі фактамі і тымі здарэннямі, з якімі ён сустракаецца ў сваім падарожжы. Усё гэта несумненна выступае ў творы Дуніна-Марцінкевіча.

І падрыхтоўка да падарожжа, і выезд, і шырокае апісанне таго вялікага ўражання, якое зрабіла на Халімона Масква, і ўдзел Халімона ў нязвыклай прыгодзе. Сабраны на вуліцах Масквы грамадны натоўп, амаль што не задушыў нейкую арыстакратку з дзіцём на руках. Халімон — чалавек чулы на ўсякае чалавечае гора, кінуўся на ратунак арыстакратцы. Б'ючы ўсіх навокал кулакамі і сам прымаючы ўдары ад другіх, урэшце вывалак арыстакратку з натоўпу і завёў да хаты. Шчаслівы муж хацеў аддаць Халімону ўсё сваё золата і срэбра, аднак Халімон ад усяго гэтага адказаўся і папрасіў толькі ў арыстакрата вады і ручніка, каб абмыць свой акрываўлены твар.

Такім чынам пісьменнік ставіць помнік высокароднасці і прастаце чалавека з народа, які ў імя справядлівасці і дабра гатоў на кожную ахвяру.

Усе гэтыя «візуальныя» моманты ўводзіць пісьменнік з той мэтай, каб ажывіць манатонію свайго твора, каб узбагаціць яго змест нязвыкласцю і «сенсацыяй». Гэтыя другарадныя мэты спалучае з асноўнай ідэяй свайго жыцця, якой было імкненне да ўсхвалення высокароднасці простага чалавека.

Аднак асноўнай справай, асноўнай ідэяй, якая чырвонай ніткай тчэцца ва ўсім творы, з'яўляецца думка аб адзінстве народа і цара — славянафільская думка аб аб'яднанні розных славянскіх народаў пад жэзлам рускага манарха. Ідэя гэта выявілася вельмі пераканаўча ў наступным фрагменце твора:

«Ды вось хацелась зблізка падзівіцца
Добраму царочку, з ім разгаварыцца.
Сказаў я смела, як мы таму рады,
Што, маючы дзетак не сметны
грамады,
Ён паляку, рускім, сынам Русі
Белай —
Без выбару — бацькам для грамады
цэлай.
Яму б я са слязінай у ногі пакланіўся
Прасіў бы, маліў бы, вось пакуль
дабіўся,
Што б над мужыкамі шчыру меў
апеку,
Веляў справіць розум цёмну чалавеку,
Штоб дзетачак нашых чытаць
навучылі,
Што б бога па ксёнжцы за цара
малілі».

Пахваліў пры нагодзе пісьменнік і мясцовых паноў, якія мараць аб тым, каб даць народу асвету і школу, і толькі чакаюць на тое, каб міласерны цар дазволіў ім гэта зрабіць.

З усяго вышэй сказанага вынікае, што для пісьменніка ўсе добрыя: і цар, і паны, і народ. Хацелася б спытаць пісьменніка: чаму так дрэнна, калі так добра. І мабыць такія пытанні прыходзілі на думку ўдумліваму чытачу XIX ст. Дунін-Марцінкевіч несумненна стварыў не твор рэалістычны, толькі легенду. Мабыць сам не верыў у тое, што пісаў. Нам ужо вядомыя факты, якія сведчылі аб апазіцыйнай пазіцыі Марцінкевіча ў адносінах да царскай сістэмы і цара. І таму нельга прымаць як добрую манету твор, у якім усхваляецца цар — бацька справядлівы палякаў, рускіх і беларусаў. Цар быў прыгнятальнікам гэтых народаў і Дунін-Марцінкевіч несумненна аб гэтым ведаў. У творы пісьменнік не мог сказаць гэтую праўду, але мог уберагчы сваю паэму ад выразна культавых элементаў. Мог прамаўчаць. Не прамаўчаў. Паставіў каплічку цару, панам і сялянам. І зноў аб'яднаў у адну цэласць тое, што аб'яднаць нельга было.

Сёння, калі гісторыя даўно вырашыла праблемы, якія былі загадкай для Дуніна-Марцінкевіча, спакайней, без эмоцыі глядзім на яго твор.

«Халімон на каранацыі» — гэта доказ заблуджэння пісьменніка, але блуджэнне ў пісьменніка гэта не грэх, а толькі тыповасць.

# НЯДЗЕЛЬНЫ АДПАЧЫНАК

У нядзелю я падаўся да гідрапарку лавіць рыбу. Аблюбаваў ціхае месцайка, закінуў вудку і прыліп вачыма да чырвонага паплаўка.

Падышоў нейкі мужчына:
— Ну як, клюе?
— Пакуль што не...

Неўзабаве, напяваючы песеньку, наблізіўся другі грамадзянін. Першы сказаў яму:
— Тсс, не пужай рыбу.

Калі падышоў трэці, за спіною завязалася нетаропкая размова:

Цяпер наогул рыба дрэнна бярэ. Ды і лавіць яе трэба ўмець. Гэты, відаць, не ўмее.

Я пачырванеў.

Сонца падымалася вышэй, і гледачы абступалі мяне ўсё цясней.

Ад алеі трывожна загукалі.
— Што там, утопленік?
— Ды не, рыбу ловіць.

І адразу ж збоку пачуўся жаночы голас:
— Мабыць, вялікая ідзе. Пераходзь, Вася, на тое месца. А то бач які ненажэрны — аднаму ўсё, а іншаму нічога.

Вудзілішча ў маёй руцэ пачало трасціся.

Клёву, як і раней, не было.

Ззаду сказалі:
— Няправільна трымаеш вудку. Я пабялеў, а прамаўчаў. Толькі дастаў з пачкі апошнюю папіроску.
— Гэтыя прыдуркаватыя рыбакі псуюць увесь пейзаж. Лепш бы купілялі селядцы ў краме.

І тут я не вытрымаў. Павярнуўся да гледачоў, закрычаў:
— Ідзіце вы к чортавай маці! Дайце спакой!

Ад мяне шарахнуліся, як ад вар'ята. Нехта загарланіў:
— Міліцыя! Дзе міліцыя?! Якая агіднасць — пускаць хуліганаў у грамадскія месцы!

Непадалёк прагучаў свісток.

* * *

Больш я рыбу не лаўлю. У нядзелю гуляю ў гідрапарку і гляджу, як ловяць рыбу іншыя. Дзе каму даю кваліфікаваныя парады.

*Леанід Шыян*

— *Не плач, мой хлопчык! Я табе куплю сапраўдную.*

# НІЎКА

*А я свайго адпусціла на паляванне.*

## Талаваломка

У гэтых ураўненнях, складзеных з запалак, дапушчаны памылкі. Пераклажыце ў кожным з іх толькі па адной запалцы так, каб усе ўраўненні сталі правільнымі.

* * *

*Адказ на заданне з папярэдняга нумара:*

## НА ПОШЦЕ

На пошце да акенца «Да запатрабавання» падыходзіць маладая дзяўчына і пытае:
— Ці няма пісьма са зваротным адрасам НТ?
— Ёсць. Ляжыць ужо некалькі тыдняў.
— А я не спяшаю. Гэтыя дзве літары абазначаюць «Навекі твой».

## НЯЎДАЧА

Калісьці дык я быў вельмі прыгожы, — легуценна гаворыць пан Кліва, — але ў радзільным доме мяне падмянілі.

## АМЕРЫКА

Маленькі хлопчык з Тэксаса просіць купіць яму пісталет. Бацька строга гаворыць сыну:
— Пакуль я галава сям'і, пісталета ў цябе не будзе.
— Як толькі ў мяне будзе пісталет, ты не будзеш галавой сям'і.

## КЛЯТВЫ

Двое мужчын гутараць аб сябры, які толькі што змяніў цывільнае становішча.
— Не разумею, чаму ён ажаніўся. Ён жа даў клятву, што не ажэніцца.
— Правільна, але яго жонка дала клятву, што выйдзе замуж!

# КАЛАМБУРЫ

## ПАПАЎСЯ

Бег Воўк за Зайцам і самлеў:
Насустрач выскачыў сам Леў.

## ПРОСТЫ РЭЦЭПТ АД ПАЎНАТЫ

Каб трохі меней еў і спаў,
Яго жывот адразу б спаў.

## БАЯЗЛІВЕЦ

Сябе паводзіў вельмі бойка,
Ды ўцёк, як пачалася бойка.

## ПРЫЧЫНА ЗВАЛЬНЕННЯ З ВІНЗАВОДА

У тым была яго віна,
Што жыць не мог ён без віна.

*Мікола Вяршынін*

*Гумар з барадою*

## СПАЦЬ НЕ ДАЕ

Адзін мужык позна прыходзіў дадому п'яны. Пачне разувацца... Скіне адзін бот і — бух ім у сцяну за якою сусед жыў. Скіне другі бот і зноў — бух у сцяну.

Не вытрымаў сусед. Прыбягае да мужыка:
— Ты, суседзе, калі разуваешся, не грукай у сцяну ботамі.
— Добра, больш не буду.

Назаўтра вярнуўся мужык дадому пад чаркаю, скінуў адзін бот і — бух ім у сцяну. Скінуў другі... Але ў гэты момант успомніў, што абяцаў суседу не грукаць у сцяну. Паставіў ціхенька бот і лёг спаць.

Прыбягае пад раніцу сусед:
— Чаму ты спаць не даеш?
— Як гэта не даю? — здзівіўся мужык.
— Я не мог заснуць — абурыўся сусед. — Чакаў, пакуль ты другім ботам грукнеш.

## ПРЫВЫК

Ювелір шукае начнога стаража. З'яўляецца кандыдат. Ювелір гаворыць яму:
— Уліччые, што вам давядзецца сядзець цэлую ноч на адным месцы, а гэта вельмі цяжка.
— Не турбуйцеся, я прывык: толькі што выйшаў з турмы.

## СТРАШНЫЯ ПЕШАХОДЫ

Жонка за рулём звяртаецца да мужа:
— Што за страшныя сёння пешаходы! Увесь час бягуць перад машынай і лезуць пад калёсы.
— Вазьмі руль улева і хутчэй з'язджай з тратуара на вуліцу.

## ШТО ЗДАРЫЛАСЯ

Начальнік аддзела кадраў лае спазніўшагася на працу:
— Ужо поўдзень, а вы толькі цяпер з'явіліся на працу!
— Ох, ведаеце, што са мною здарылася? Я цэлых дзесяць гадзін быў непрытомны.
—Што ж з вамі здарылася?
— Спаў, як забіты.

## ЖОНКА І МУЖ

— Як сябе адчувае цяпер твой муж? — пацікавілася дама, што прыйшла ў госці да сяброўкі.
— Ды ведаеш, з ім нешта здарылася. Ён цэлымі днямі ловіць рыбу ў ванне.
— Дык тады табе трэба было запрасіць псіхіятра!
— Я таксама думала аб гэтым, але мне так хочацца рыбкі!

## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе моладзі з вёскі Баб'я Гара Гайнаўскага павету змяшчаем песню:

# Takiemu to dobrze

**Słowa: M. Łebkowski, S. Werner**
**muzyka: Zbigniew Ciechan**

1.
Do koszar żołnież szedł przez ulicę,
na skrzyżowaniu stał podoficer.
Sprężyście żołnież zasalutował...
A co pomyślał? Takie trzy słowa:

Takiemu to dobrze, takiemu dobrze,
nie staje przed każdym na baczność!
Takiemu to dobrze, takiemu dobrze,
medalem coraz go odznaczą.
Nikt co chwila go nie pędzi do roboty
i nie biją wciąż na niego siódme poty.
Takiemu to dobrze, takiemu dobrze,
takiemu to dobrze, nie to co mnie!

2.
Stał podoficer przy ulic zbiegu
i kapitana nagle spostrzega.
Honory oddał nasz plutonowy
i taka myśl mu przyszła do głowy:

Takiemu to dobrze, takiemu dobrze,
kariera się przed nim otwiera!
Takiemu to dobrze, takiemu dobrze,
przytulna nań czeka kwatera!
Dziewczyn sto go kocha, więc ma w czym wybierać.
bo chce mieć każda męża oficera.
Takiemu to dobrze, takiemu dobrze,
takiemu to dobrze, nie to co mnie!

3.
Wtem czarna wołga się zatrzymała,
samochód przywiózł tu generała.
Zasalutował dziarsko kapitan
i taka myśl mu w głowie zaświta:
Takiemu to dobrze, takiemu dobrze,
szacunek, zaszczyty, powaga...
Takiemu to dobrze, takiemu dobrze,
on rządzi, poleca, wymaga...
Lat niemało liczy, a jaki sprężysty!
Jak z opinią jego liczy się minister!
Takiemu to dobrze, takiemu dobrze,
takiemu to dobrze, nie to co mnie!

4.
A gdy generał do domu zmierzał,
ujrzał dziewczynę, a z nią żołnierza.
Spojrzał spod ciężkich, zmęczonych powiek.
A co pomyślał? No... kto odpowie?
Takiemu to dobrze, takiemu dobrze,
takiemu to dobrze, nie to co mnie!

— *Можаце разняняць 10 000 дробнымі?*

## У КІНО

У час кінасеанса чуецца трывожны голас:
— У зале ёсць доктар?

Адзін з гледачоў імгненна ўсхопліваецца.
— Я доктар. Што здарылася?
— Дзякуй Богу, цяпер я спакойна магу глядзець кіно, — сказаў той жа голас.

## НЕ ВЕДАЮ, ШТО ЗРАБЛЮ...

— Мікола, зараз жа злазь з дрэва, а то я не ведаю, што з табою зраблю... — гукае маці.
— Мама, пакуль ты надумаеш, што са мною зрабіць, я яшчэ трошкі пасяджу... — адказвае сынок, абрываючы яблыкі.

# Курёзы

## ЦІ СВІШЧА РАК НА ГАРЫ

Як паведамляе «Чырвоная змена» (Мінск), вывучэннем гэтай праблемы займаецца група вучоных аднаго навукова-даследчага інстытута. Месцам для эксперыменту абрана Лысая гара, што пад Мінскам.

Для дзесяці падследных ракаў створаны ўмовы, блізкія да натуральных. Вучоных цікавяць пытанні: чаму свішча рак? Як свішча? Ці свішча толькі на гары?

Закончан першы этап даследаванняў. Ніводзін з падследных ракаў не свіснуў ні на гары, ні пад гарою. Але ў час пасяджэння навуковага савета інстытута, на якім кіраўнік групы прафесар Б.В. Салаўёў папрасіў дадатковых асігнаванняў на працяганне эксперыменту, раптам пачуўся свіст.

На жаль, — піша газета, — гэта свіснуў не рак, а галоўны бухгалтар інстытута.

## СУВЕНІР

У час акупацыі Францыі афіцэры і салдаты вермахта часта наведвалі майстэрню Пікасо. Кожны з гэтых няпрошаных гасцей атрымліваў ад вядомага мастака карціны, на якіх быў намаляваны разбураны фашысцкімі лётчыкамі баскі горад Герніка. Толькі адно слова, уручаючы падарунак, гаварыў Пікасо: «Сувенір».

Аднойчы да мастака прыйшоў служачы тайнай паліцыі, паказаў такую ж рэпрадукцыю.
— Гэта вы зрабілі?
— Не, адказаў мастак. — Гэта ваша работа.

## КОЖНЫ ДЗЕСЯТЫ

Каля мільёна венграў прысвячаюць сваю вольную гадзіну калекцыяніраванню марак. Гэта значыць, што кожны дзесяты жыхар краіны — філатэліст. З мільёна людзей, у якіх філатэлія з'яўляецца «хобі», кожны чацвёрты — член саюза венгерскіх філатэлістаў. Кошт усіх калекцый марак у краіне ацэньваецца ў мільярды форынтаў.

*Пляткара нельга абвінавачваць у тым, што ён не цікавіцца другімі людзьмі.*